# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

двухтыднёвая часопіс для меншых дзяцей

1933 г. № 7

ГОД выданьня 5

Орган ЦК ЛКСМБ і Наркамасьветы




# параход

Верш Я. Хомчанкі

Вось шуміць раўчук бурлівы.
Тут сышліся Янка, Клім
І майструюць ганарліва
Вадзяны сасновы млын.

А пад шумны сьмех і гоман
Мчыцца Петрык Скараход.
Рупна ён да рэчкі гоніць
Збудаваны „параход".

А пад вечар—паглядзеце:
Закруціўся Клімаў млын.
„Параходам" правіць Пеця.
Колькі-ж радасьці малым!



# Першая баразна



Апавяданьне С. Баранавы
Малюнкі В. Волкава

Мой бацька толькі што прышоў з калгаснага сходу. Я ляжу пад коўдрай і пазіраю на яго твар адным вокам. Ён скідае з плеч сваю ватоўку і кажа да маткі:

— Дай чаго-небудзь, старая, падвячэраць.

Маці бразгае ў качарэжніку вілкамі: яна будзе (я ведаю) даставаць гарачы з печы булён. Я пазіраю на бацьку і бачу: твар яго ўвесь у радасьці. Ён, нават, аж нечага ўсьміхаецца сваімі вусамі.

— Ну што...—ставіць на стол маці міску з забеленым булёнам.—Чаму так ты позна быў?

Бацька барабаніць пальцамі па стале — чакае, пакуль падасьць маці лыжкі, каб сёрбаць забелены булён.

— Нічога, — кажа бацька, бяручы лыжку, — заўтра выяжджаем у поле. Будзе цэлае сьвята!

Мяне вельмі бярэ цікавасьць, якое будзе сьвята ў полі. І я кашляю наўмысьле: хай ведае бацька, што я яшчэ ня сплю.

Але ён не бярэ на ўніманьне майго кашлю. Ён як і ня чуе, што я ня сплю. Тады я моцна пазяхаю, катурхаюся. Я хачу гаварыць з бацькам пра сьвята.

— Чаму ты ня сьпіш? — маці падыходзіць да майго ложку.—Ужо-ж позна.

— З сну неяк выбіўся, — кажу я. А бацька да мяне (Мне гэтага і трэба было, каб распачаць гаворку):

— Сьпі, сьпі,—кажа бацька.—Заўтра ў школе ў цябе выхадны дзень—паедзем на поле. Будзеш рабіць першую баразну веснавой сяўбы.

Тады я ўзьнімаю галаву на ўзлокатак ды пытаю ў бацькі:

— Гэта будзеце заворваць?

— Будзем заворваць,—кажа ён.—Заўтра выедзе ў поле мая і Марцінчыкава і Антосева брыгады аратых.



Маці ўстаўляе сваё слова і наводзіць на мяне цэлую злосьць: чаму яна не дае гаварыць другому чалавеку? Мой бацька часамі кажа: адзін няхай гаворыць, а потым другі. Я злую спатайка на матку, а яна кажа:

— Па-мойму, яшчэ рана заворваць.

— Ня рана,—кажа бацька.—На Лядах ды на Машкох—зусім суха. Так што пакуль узаром гэтыя кліны, дык і на Галым падсохне.

Маці яшчэ кажа (мая маці, па-мойму, вельмі перакорлівы чалавек):

— Дык гэта-ж заўтра, калі заворваць — агню ня будзем у хаце увечары запальваць?

— Будзем запальваць ,— пазірае бацька на матку.— Мінуліся табе гэтыя забабоны. Даволі што цэлы век пакутвалі мы ў гэтых забабонах.

Маёй матцы няма чаго казаць, дык яна яшчэ вынайшла.

— Чаму гэта цябе канешне брыгадзірам?

А бацька праглынуў булён ды:

— Каму-ж небудзь трэба быць. Ды якая ў гэтым розьніца?

Маці ізноў супярэчыць бацьку.

А я гэтым часам вырашаю ў сваіх думках:

„Заўтра канешне паеду на поле“.

* * *

Раніца яркая, але мне ня холадна. Дзе-ні-дзе мароз сваімі зубамі нават пасьціскаў ваду.

Я іду вуліцаю і цісну сваімі абцасамі марозава шкло на лужынках.

— А на што той мароз — хай ня будзе, трэба-ж заворваць.

Бацька раней пайшоў за мяне на калгасны дзядзінец, і я цяпер ня ўсе лужыны праціскаю: я сьпяшаюся, каб не спазьніцца.

А вось і дзядзінец калгасны. Унь дзе Цімохаў Ігнась з Тамашом запрагаюць коні, унь дзе і Сьвірыд, і Андрэй, і Лявон... Уга, колькі тут назьбіралася ўсіх з калгасу! А бацька мой запрог ужо коняй — сваю парку, Сівога з Ігнасёваю, што некалі была — кабылаю. Яны як тыя стаеньнікі—ухмыляюцца. Сівая аж капытом зямлю скубе. Бацька мой, бачу я, выбірае грывы з-пад хамутоў.

Я падыходжу да самага бацькі і бачу, што кабыла падабрала пад нагу ляйчыну. Я хацеў сказаць бацьку, што ляйчына папала пад нагу, але потым вырашыў: што я не магу выблытаць ляйчыны, ці што? Я бяру за ляйчыну і кажу на кабылу:

— Тпру... ножку!.. Ножку!.. — сморгаю я за ляйчыну.

Але яна як і ня чуе. А Лявон згледзеў, што я сморгаю, ды да мяне:



— Ня лезь!—зубы табе высмаліць от!

— Ня высмаліць, — кажу я. — Ня вельмі. Ды зноў:— Дай нагу, нагу дай, каб цябе...—сморгаю я зноў.

І яна падымае нагу—дае мне дастаць ляйчыну.

— Бачыш ты яго,—кажа Лявон,—які дасьціпны (гэта на мяне).

— Я не дасьціпны,—кажу я.

А бацька, бачу, на ўсё гэта глядзіць адным вокам і сьмяецца сам сабе ў вусы, а потым і кажа:

— Хай прылаўчаецца.

Мне аж неяк добра, што ён так кажа. Што я маленькі ці што? Канешне я ўжо магу прылаўчацца і нават рады дам такому ўнурыстаму каню, як гэты.

*
* *

Прыехалі туды, дзе трэба араць, і я ўбачыў: поле ўсё ляжыць сівае, як зрэбнае палатно. І нават такое, як нібыта коні качаліся па ім. Гладкае. Альбо, як абадранае. Была, здаецца, на ім скура і от нехта яе садраў. Я то ведаю, чаму такое поле: сьнег быў скураю нашага поля, а цяпер растаў і яно разьдзетае, гэткае як бяз вопраткі.

Цімахоў Ігнась, калгасны старшыня, кажа да майго бацькі:

— Якаў... Ты камандуй паркамі. Разьмяркуй, каго за кім пусьціць. Лепшыя коні—паперадзе, а слабейшыя—ззаду.

Я стаю каля бацькавага плуга і з-патайка паглядваю на ручкі плуга. Рэхвы на ручках крыху ў іржы, а само дзерава прыцямнела.

— Ведама цэлую зіму прастаялі, — думаю я. — Дык і прыцямнелі.

Я кратаю адну ручку на плузе: як яна — ці круціцца на шпяні, ці ня круціцца?

А бацька, падыходзячы да плуга:

— Не чапай, сынок, абернеш плуг.

— Не абярну-у,—кажу я ды пазіраю на цэлы натоўп нашых калгасьнікаў з плугамі.

Коні, то сей, то той махаюць часам хвастамі. Заядзі няма, а яны махаюць.

— Ня гэтак вы памахаеце, — думаю я,—калі будуць ганяць на раніцу каровы. О-о, тады вы папамахваеце!

Але не пасьпеў я гэтак падумаць, як бацька кажа на ўвесь свой голас:

— Цімох, ідзі паперадзе... Тамаш за Цімохам... Сьвірыд за Тамашом...

Бацька кажа і кажа, а я гляджу і бачу:

Цімахоў плуг ткнуўся ў зямлю і пачаў, як той крот, варушыць сівую зямлю, што бяз скуры. Скіба адкідаецца і разьбіваецца аж на дробныя цурачкі. За ім — Тамашоў плуг, потым — Сьвірыдаў... І гэтак цэлы шнур плугоў— па-ашлі-ы... З вузенькай Цімохавай скібы адразу зрабілася во якая шырокая скіба! І ад канца шырока, шырока зрабілася, а там, дзе Тамаш — вузка яшчэ. Але Тамаш далей адыходзіць, і гэта шырокая адыходзіць за ім.

І от калі пачалі ўсеісьці назад укругавую, мне тады вельмі закарцела, каб паараць.

— Дай мне,—кажу я да бацькі, пазіраючы на ручкі плуга.

— Што табе даць? (Ён то і ведае што, але пытае).

— Паараць...—кажу я.

— Паарацьʼ?—пераказвае бацька з нейкім дзівам мае словы.

— Ага...—пазіраю я на бацьку.

— Ну, на—паары,—сьмяецца ён, стрымліваючы каня.

У мяне ў сярэдзіне ўсё ад нечага аж гатуецца. Хаця каб ня было на полі гэтай цэлай чарады, а то іх унь колькі назьбіралася... Унь дзе і Уладзік, і Зьміцер і Міша... і яны ўсе, як пачну я араць—будуць пазіраць. Няхай сабе пазіраюць, мне яшчэ і лепей, хай от ведаюць, што я ару.

І я станаўлюся ў баразну, бяруся за ручкі плуга. Але яны вельмі высока зроблены і мне трэба падымаць крыху мае рукі ўверх. Я кажу бацьку, што ўжо можна араць, і ён да мяне кажа:

— Ну дык і ары-ж.

А я чакаў, пакуль ён ня скажа на коняй:—Но!

Я забыўся, што мне трэба самому і на коняй казаць—„но“.

— Но-о!..—кажу я на коняй. Але яны стаяць і толькі паглядаюць сабе.

— Ну-у... ізноў кажу я. А бацька да мяне:

— Трэба смаргануць за лейцы... От гэтак. І бацька сморгае за лейцы, а я зноў кажу „но“. Коні ўзялі разам з свайго месца і плуг выскачыў усім сваім бліскучым лычам наверх.



— Каб цябе агонь!.. сморгаю я коняй за лейцы.— Тпру!..

А бацька сьмяецца.

— Трэба ручкі падымаць угору,—кажа ён мне,—а ты насядаеш на іх, уніз прыціскаеш.

— Я і падымаю,—кажу бацьку,—але тутака камень быў.

— Ага,—дапамагаючы мне ўткнуць у зямлю плуг, зноў нечага сьмяецца мой бацька. Але коні пайшлі ў другі раз і я цяпер ручкі падымаю ўгору. Плуг зайшоў увесь у самую зямлю і мне лёгка-б, каб толькі ручак ня трымаць угору. Ды яно і ня вельмі цяжка... Бацька лейцамі кіруе коняй, а я іду і трымаю ручкі.

— Но-о-о!.. голасам падганяю я коняй. Каб ва-ас... І я загаварыў на коняй поўным голасам, плуг зноў сваім лычам тыц з-пад зямлі.

— Ну, хопіць, — сунімае бацька коняй. — Адпачні! Маладзец! Ты шчасьлівы...—на мяне пазірае ён. — Гэта твая першая баразна... У першую вясну другой пяцігодкі. Таму ты і адзін з шчасьлівых.

Я не разумею бацькі, чаму я шчасьлівы? Ён-жа таксама, па-мойму, быў шчасьлівы, калі араў перш-на-перш? А бацька ўсёроўна, як угадаў маю думку:

— Ты, сынок, шчасьлівейшы за мяне. Бо я сваю першую баразну рабіў, як быў парабкам у кулака Тадэвуша, і для Тадэвуша на Тадэвушавым полі, а ты робіш сваю баразну вольным чалавекам і на калгасным полі і для ўсяго нашага калгасу.

# Што, калі і як сеяць



Прышла вясна з цёплымі радаснымі днямі; прынесла яна новую работу людзям: сеяць збожжа, садзіць бульбу на палёх, даглядаць гароды.

Дзеці, пры вашай школе ёсьць, мусіць, таксама гарод. На гэтым гародзе скора распачнецца праца. А ці падрыхтаваны вы да гэтай працы? Ці ведаеце вы парады агранома:

## Калі і як сеяць?

Трэба ведаць, калі і як сеяць і садзіць гародніну. Як толькі сыдзе сьнег і абсохне зямля так, што не прыстае да рыдлёвак, дык можна сеяць ужо: радыску, салату, моркву, кроп, пятрушку, садзіць цыбулю.

Насеньне морквы вельмі дробненькае. Каб расьсеяць яго на

градах аднолькава ўсюды, дык зьмешваюць з пяском. Сеяць [найлепей у вузенькія градкі. Як трошкі морква падрасьце, дык яе трэба прарэджваць, тады яна большая вырасьце. Тое-ж самае робяць з радыскай.

Салату найлепей сеяць сям-там па ўсіх градах. Прарэжваць таксама патрэбна, калі ўзыдзе густа. Вырваныя калівы можна садзіць у другім месцы.

Пазьней трохі сеюць буракі, гарох, фасолю, бульбу.

Буракі трэба намачыць перад пасадкай на 4—5 дзён. Мочаць насеньне буракоў у мокрай анучцы і трымаюць у цяпле.

Самымі познымі пасевамі, што баяцца марозу, зьяўляюцца гуркі, гарбузы, памідоры і капуста. Памідоры раней трэба сеяць у скрынках і трымаць у парнікох або ў хаце, а тады садзіць флянцамі.

Гуркі прарошчваюць 3—4 дні і садзяць з храсткамі. Для гуркоў трэба выбраць добра ўгноеную зямлю.

Памідоры садзяць на адлегласьці 70 сантым. адзін ад другога і таксама на добра ўгноенай зямлі. Іх карысна паліваць гнаёваю жыжкаю. Памідоры патрэбна пасынкаваць, гэта значыць абразаць атожылкі на ствале. Пакідаць на ствале галінак трэба 2-3, і то на самым версе. Калі памідоры падрастуць, іх трэба прывязваць да палак.

Расаду капусную садзяць таксама на 70 сант. адна ад другой. Саджаць трэба глыбей, чым яна сядзела ў расадніку, і ў вільготныя ямкі. Спачатку трэба паліваць, пакуль ня прымецца, а праз тыдзень-два асыпаць (акучыць). На капусту вельмі часта нападаюць шкоднікі гародаў— капуста для іх найлепшы прытулак. Гэта трэба мець на ўвазе. Заўважаных шкоднікаў зьніштажайце зараз-жа.

Калі лепей сеяць, аб гэтым спытайце ў раённага агранома—ён параіць. Бо для кожнай мясцовасьці бывае свой час: гэта залежыць ад зямлі, ад надвор'я.

## БУДЗЕМ ПРАВОДЗІЦЬ НАГЛЯДАНЬНІ

Мала таго, што мы добра і ўпору засеем свой гарод, сваё поле. Будзем вывучаць прычыны вялікага ўраджаю і прычыны недароду. Зробім асобныя градкі і на іх будзем практыкавацца.

Як гэта рабіць?

Скажам, вы хочаце вывучыць наколькі залежыць ўраджай ад насеньня. Дзеля гэтага на адной градцы сейце буйнымі зярнятамі, а на другой—дробнымі. А зжаўшы, параўнуеце—і вы ўбачыце розьніцу. Трэба толькі глядзець, каб градкі былі роўныя.

Таксама можна прасачыць, якую карысьць дае markrознае ўгнаеньне на тое ці іншае насеньне. Але гэта трэба рабіць умела, толькі пасьля парады агранома.

Наогул, тая школа, якая пажадае заняцца досьледамі, павінна ў першую чаргу параіцца з аграномам.



# КАЛГАСНАЯ ВЯСНА

*Гэтыя частушкі выкарыстайце для калектыўнай дэкларацыі пад гармонік.*

С. Дарожны



**Першы голас.**

Каб шумела ў полі жыта,
Каб быў добры ураджай,—
Ў поле попел свой нясі ты,
На палеткі пасыпай!

**Прыпеў хору.**

Попел, попел свой нясі ты,
На палеткі пасыпай.

**Другі голас.**

Каб вясной па-бальшавіцку
Вышаў кожны з нас у час,
Абвяшчаем пераклічку
Баявую на калгас.

**Прыпеў.**

Абвяшчаем пераклічку
Баявую на калгас.



**Трэці голас.**

Каб шумела ў полі жыта,
Ў час работу распачні ты.
Кожны трактар, плуг агледзь
І тады на поле едзь!

**Прыпеў.**

Кожны трактар, плуг агледзь
І тады на поле едзь!

**Чацьверты голас.**

Гэтай дружнаю вясною
Не дамо нідзе прастою.
Пабрыгадна, гэй пайшлі
На калгасныя палі!

**Прыпеў.**

Пабрыгадна, гэй пайшлі
На калгасныя палі!

**Першы голас.**

Што ні дзень—бліжэй вясна,
Да яе рыхтуй каня,
Чысьц насеньне, каб былі
Ураджайныя алі.

**Прыпеў.**

Чысьц насеньне, каб былі
Ураджайныя палі!

**Другі голас.**

Старшыня у нас, браточкі—
Баявы наш камандзір.
Ён ні дня ня знае, ночкі—
За работаю глядзіць.

**Прыпеў.**

Ён ні дня ня знае, ночкі—
За работаю глядзіць.

**Старшыня.**

Сёньня збор у нас калгасны—
Пробны выезд на сяўбу.
У рабоце трэба яснасьць.
Гэй, гарніст, трубі ў трубу!
Усе на поле на работу!
Усе выходзьце на сяўбу!

**(Трубы трубяць збор. З песьняй „Жалезная дапамога“ выходзяць).**



# АДАМ ЗНАЧОНАК



**У канцы сакавіка ў г. Менску адбыўся 1 ўсебеларускі зьезд калгасьнікаў-ударнікаў. На гэты зьезд сабраліся былі лепшыя з лепшых работнікі калгасных палёў. На зьезьдзе калгасьнікі-ўдарнікі абмеркавалі найважнейшыя пытаньні калгаснага будаўніцтва.**

**Адам Значонак — дэлегат 1-га ўсебеларускага зьезду калгасьнікаў-ударнікаў ад Заслаўшчыны.**

Аднагодкі Адама Значонка рэдка калі злазяць з печы. Печ зімой і летам—увесь іх сьвет.

А Адам Вінцэсевіч—чалавек іншага складу. Гады яго цягнуць на печ, а ён упіраецца і едзе ў лес. Старасьць прытрымлівае за ногі і паказвае на прызбу пад страхою—ён-жа ідзе ў поле. Калі трэба—з касой, бараной, плугам, сяўнёй, а то—і з пугай.

З пугай, за пастуха. Значонак ідзе толькі як для адпачынку.

— Пасу я аднойчы вось гэтак авечкі, а побач жыта нашы-ж калгасьнікі сеюць. Надвор'е добрае. Поле аж дыміць пад сонцам. Мне так і хочацца ўзяць сяўню ды засеяць якія гоні, ці двое. Але ў мяне сёньня — авечкі, мне загадалі адпачываць. Нічога ня зробіш,—адпачываю.

Адпачываю я, памалу ходзячы каля авечак, і бачу: Сьцяпан Рабушкін і Мацей Рабушкін вельмі нешта часта з сявенькамі ў хмызьняк бегаюць.

Наглядае за імі Адам і думае сабе: нездарма браты Рабушкіны адлучаюцца з пахаці: носяць у хмызьняк яны жыта...

— У мяне аж у сэрцы кальнула, калі я здагадаўся, што крадуць Рабушкіны калгаснае жыта.

Адам кідае на некалькі хвілін авечак і бяжыць у вёску шукаць свайго сына—камсамольца, брыгадзіра паляводчай брыгады.

— Гэта-ж сын вінават, што ў яго пад носам цягаюць калгаснае дабро!

Знаходзіць Адам сына.

— Калі ты так будзеш глядзець за калгасным дабром, прыдзецца табе, сынку, занесьці ў Заслаўе сваю камсамольскую кніжку.

— Што такое здарылася?—пытае сын.

Стары пакуль нічога не гаворыць, а толькі дакарае сына.

— Ды які-ж ты камсамол пасьля гэтага, калі ў цябе на полі крадуць?!

Сын зразумеў, аб чым гаворка, і кінуўся бегчы на поле, каб злавіць Рабушкіных. Але Адам схапіў яго за пінжак:

— Дурніца! Куды ты? Пачакай, паслухай мяне старога. Яны нідзе ня дзенуцца. За імі трэба толькі сачыць да вечара. Там недалёка стаіць елка. Я-б табе раіў залесьці на елку—адтуль добра відаць—і наглядаць зя зладзеямі. Сам я гэтага не магу—у мяне авечкі.

Калі недзе за мяжою хавалася ружовае сонца, Адам гнаў дадому авечак, а сын вёў у вёску злоўленых зладзеяў Рабушкіных.

*
* *

Неяк Значонак, вярнуўшыся позна з касьбы, даведаўся, што на полі пачалі красьці калгасную пшаніцу і ячмень. Адам прышоў у праўленьне калгасу і папрасіў стрэльбу.



— Навошта табе?—запыталіся там.

— Пайду вартаваць снапы.

— У нас-жа ёсьць вартаўнік.

— Няхай сёньня пасьпіць ваш вартаўнік, — адказаў Адам, апрануў кажух і цішком, каб ніхто ня ўбачыў, падаўся ў поле.

Спусьцілася ноч, і малочным сьвятлом месяца заліло поле. Адам узяў некалькі снапоў пшаніцы, адышоўся ў бок, лёг у разору і накрыўся снапамі.

Серабрыцца пад месяцам іржышча. Ціха. Ужо і поўнач. На сяле змоўклі сабакі. Нехта паказаўся здалёку. Ідзе проста да снапоў, азіраючыся кожную хвіліну.

Вось ён падышоў ужо да пшаніцы. Расьцягнуў на зямлі лейцы і пачаў класьці снапы. Наклаў, як падняць, завязаў і ўзьняў на плечы.

— Стой!—крыкнуў Адам,—і злавіў чарговага злодзея.

І яшчэ дзьве ночы сядзеў Адам каля бабак. Злавіў двух жулікаў-зладзеяў. І толькі тады аддаў стрэльбу вартаўніку ды вярнуўся да сваёй работы...

* * *

— Калі я жыў на сваёй аднаасобнай гаспадарцы, то ніколі ў жыцьці больш не нажынаў як 7 коп жыта, — апавядае стары.

Сям'я ў Адама была вялікая: 7 дачок і 2 сыны. 11 чалавек трэба было накарміць. І Адам з старэйшымі дзецьмі ішоў да кулакоў, працаваў, як ён кажа, за фунт гнілога бобу вялікі чэрвеньскі дзень.

— А зараз у мяне — жыцьцё! Я ужо жыву заможна. Жыву так, як ня жыў ніводзін серадняк у нашым сяле. Я хоць сам і стары, а ўсё-ж выпрацаваў 327 працадзён.

Перад тым, як паехаць на зьезд і заняць месца за чырвоным сталом прэзыдыуму, Значонак купіў на рынку 50 пар пастромкаў і некалькі пудоў вяровак. Зараз ён з гонарам гаворыць аб гэтых пастромках.

— Пастромкі, паверыце, такія, што я падобных ніколі ня бачыў. Добрыя пастромкі.

За сяўбу Адам спакойны, бо ўсё зроблена, падрыхтавана да вясны. І гной вывезены, і насеньне ўсё ссыпана і ачышчана, і коні добрыя, і вупраж, і вучасткі за брыгадамі замацаваны.

— Падрыхтаваны мы так, што хоць заўтра можам выходзіць у поле, — з гонарам хваліцца Адам Значонак, дэлегат 1-га ўсебеларускага зьезду калгасьнікаў-ударнікаў.







# ПЕРАКЛІЧКА ПАРАВОЗАЎ

Паравоз з Данбасу
Разгудзеўся басам:
— Я іду-у, іду-у, іду-у,
Вязу вугаль і руду.
На заводах не хапае
Чыгуну.



Там рабочыя чакаюць
Чыгуну, чыгуну.
Пабягу скарэй я ўдаль,
Павязу чыгун і сталь.





***

Паравоз з Масквы ляціць,
Замарыўся, ён, пыхціць:
— Пуф-пуф-пуф! Памажы...
Хамуты вязу, гужы.
І мануфактуру-у,
і літаратуру-у.
Тук-тук-тук! Тук-тук-тук!
Вязу трактар, вязу плуг
Для калгасных моцных рук,
Каб яны ўзарацць змаглі
Многа тысяч га зямлі.

***

І ў адказ крычаць тут разам
Паравозы гулкім басам:
— Мы бяжым з калгасаў,
— Мы ляцім з саўгасаў.
Мчымся дні і ночы —
Хлеб вязем рабочым.
— Мы-ж—адзеньне для Данбасу,
— Мы з Сібіры масла, мяса,
Каб рабочая краіна
Працавала нясупынна!






# Прэч папоўскі вялікдзень!

П‘янку, разбой, прагулы, падпалы — вось што нясе з сабой папоўскае сьвята—вялікдзень.

Каму ад гэтага карысьць?

Толькі нашым ворагам—кулаком, папом, шкоднікам, гультаём.

Ворагі ўсімі сіламі стараюцца пашкодзіць нашай справе. А папоўскі вялікдзень ім у гэтым дапамагае.

Прэч вялікдзень і ўсіх ворагаў сацыялістычнага будаўніцтва!

Прэч папоўскія і кулацкія казкі пра багоў і сьвятых!

Ніводнага прагулу ў вялікодныя дні!

Наша сьвята—дзень 1-га Мая!

# Джордано Бруно

Нарыс Я. Маўра

Кожны піанэр і школьнік ведае, што зямля наша круглая, што яна круціцца вакол сябе і ходзіць вакол сонца. Што сонца ў шмат разоў большае за зямлю, што разам з зямлёю круціцца вакол сонца яшчэ восем плянэт, што зоркі такой самай вялічыні, як і сонца і г. д. і г. д.

Людзі ведалі гэта даўно. Найбольш дакладна высьвятліў гэта вучоны Капернік, гадоў 400 назад. Здавалася-б— справа зусім добрая і карысная, што людзі даведаліся, як пабудован сьвет. Але знайшлася нават цэлая арганізацыя, якая ні ў якім разе не хацела дапусьціць, каб людзі ведалі навуковую праўду.

Арганізацыя гэта— царква, рэлігія. Гэта шкодная ўстанова баіцца навукі больш як чорта, якога яна сама выдумала. Бо яна ведала, што калі навука скажа праўду пра зьявы прыроды і



Капэрнік


Д. Бруно.

жыцьця, тады рэлігіі будзе канец, тады „слугам божым“ нельга будзе абдурваць людзей і жывіцца за іх кошт.

Гісторыя ведае шмат фактаў, якія сьведчаць аб сьляпой нянавісьці рэлігіі да навукі. Аб адным з такіх фактаў мы хочам тут расказаць.

* * *

За тры з паловаю сотні гадоў да нашага часу жыў у Італіі, каля гораду Нэапалю, у манастыры, малады манах Джордано Бруно. Ён быў вельмі здольны, удумлівы чалавек. Апрача сваіх сьвятых кніг, ён цікавіўся і навукай, зьявамі прыроды, стараўся ўразумець як пабудаваны сьвет. А калі пазнаёміўся з вучэньнем Каперніка, дык прышоў да вываду, што рэлігія гаворыць аб гэтым зусім няправільна.

Ён пачаў выказваць думку, што зямля круціцца вакол сонца і г. д. Калі пачулі пра гэта манахі і рэлігійнае начальства, дык аж у жах прышлі. Як? Зямля меншая за сонца ды яшчэ круціцца вакол яго? Не павінна быць гэтага! У старых кнігах нідзе пра гэта ня сказана, значыцца не павінна быць так.

І Джордано Бруно прапанавалі пакаяцца, прызнаць, што гэта няпраўда, а то ён будзе пакараны. Але як яму было прызнаць за памылкі навуковую праўду?

І ён уцёк з Італіі. Трапіўшы ў Швэйцарыю, пачаў нават чытаць лекцыі ў унівэрсытэце. Але і там уся навука была рэлігійная, таму і адтуль Бруно павінен быў уцякаць.

Тады ён накіраваўся ў Францыю, дзе ў гэты час быў моцны рух супроць каталіцкай царквы. Там ён некалькі гадоў быў прафэсарам унівэрсытэту у Тулузе і Парыжы. Але і ў гэтых унівэрсытэтах таксама панавала навука рэлігійная, і Джордано Бруно пераехаў у Англію. У Англіі—тое самае, хоць рэлігія там была не каталіцкая. Але, як відаць, кожная рэлігія супроць навукі.

З Англіі Джордано Бруно зноў вярнуўся ў Парыж. Адтуль-жа павінен быў ужо ўцякаць у Германію.

Прабадзяўшыся такім чынам шмат гадоў, Джордано Бруно парашыў вярнуцца ў Італію.

Ён спадзяваўся растлумачыць, давесьці папу рымскаму, што сьвет пабудованы сапраўды так, як казаў Капернік, што ў гэтым нічога дрэннага няма і г. д.

Але як толькі ён вярнуўся ў Італію, дык быў арыштаваны. Яму паставілі пытаньне: альбо адрачыся ад сваіх поглядаў, альбо будзеш пакарны сьмерцю, ды яшчэ не абы якою, а будзеш спалены на агні.

Яго ахвотна спалілі-б і так, але Джордано Бруно быў ужо вядомым усяму сьвету вучоным. Таму для папоў выгадна было, каб ён сам прызнаў сваю навуку за хлусьню: тады-б і ўсе яго вучні прызналі, што правільна вучыць рэлігія, а ня ён.



Малюнак Г. Ізмайлава.

*Джордано Бруно прывялі на пляц і спалілі. А пакуль ён курчыўся ў агні, духавенства сьпявала песьні.*

Але Бруно згадзіўся лепш пайсьці на сьмерць...

І вось у 1600 годзе ў Рыме адбылася ўрачыстая і подлая цэрамонія. Сьвяточная працэсія з духавенствам і царкоўнымі сьцягамі павяла Джордано Бруно на пляц, дзе быў пастаўлены слуп, а каля яго загатоўлены дровы. Прывязалі пакутніка да слупа, абклалі дровамі, падпалілі... А пакуль ён курчыўся ў агні, сьпявалі царкоўныя сьпевы.

* * *

Цяпер на гэтым месцы стаіць помнік. Бо зусім ужо немагчыма да гэтага часу хлусіць людзям, што зямля стаіць на трох кітох.

Але змаганьне рэлігіі з навукаю ня спынілася. Дзе толькі магчыма, рэлігія імкнецца затрымаць навуку, і ўсяго толькі гады тры назад у „культурнай" Амэрыцы адбыуся суд над настаўнікам, які вучыў, што чалавек разьвіўся з ніжэйшых арганізмаў, а ня зроблены з гліны рукамі бога, як вучыць рэлігія.

Розьніца паміж судом над Джордано Бруно і амэрыканскім настаўнікам толькі тая, што настаўніка не спалілі, а зволілі з працы і прысудзілі штраф.

І толькі ў Савецкай краіне навука можа разьвівацца вольна, не баючыся ніякіх папоў. Таму мы так шпарка ідзем наперад, што хутка перагонім усе тыя краіны, дзе рэлігія яшчэ можа рабіць сваю агідную справу.

# Павуціна

Прыехала Параска з вёскі ў горад да дачкі. Цікава ёй паглядзець, як жывуць людзі ў горадзе.

Жывуць — нішто сабе. Хоць цеснавата, але чыстата затое, плюнуць на падлогу сорамна,—такая яна ў іх чыстая.

— Але-ж і чыстата ў вас, дачушка, — дзівіцца Параска,—акуратна жывяцё.

— Па-новаму жывём, — усьміхаецца Ганна. — Гэта мае дзеці нас старэйшых вучаць. Што ў школе даведаюцца, усё нам пераказваюць: як падлогу месьці, як фортачку адчыняць ды праветрываць хату. Яны і за чыстатою наглядаюць.

— Малайцы, дзеткі, калі яны так дбаюць аб чыстаце,—хваліць Параска ўнукаў.

Падвечар узялася Параска дапамагаць дачцы бульбу скрэбці і няўмысьле палец абрэзала.

Нічога не сказала нікому, а тупае па хаце і прыглядваецца ў кутку.

— Вы чаго шукаеце, мама? — пытаецца дачка.

— Мне, каб павуцінкі трохі... да раны прыкласьці. Палец я абрэзала. А павуціна вельмі добра кроў спыняе.



Засьмяялася Ганна.

— І ня шукайце, мама, — ня знойдзеце пасьля маіх дзяцей. Усю яны зьмялі.

А ўнучак Міцька тут-жа круціцца пад нагамі.

— Павуцінаю ты толькі рану растравіш,—гаворыць нібы доктар які. — Дай, лепей ёдам зальлю. А пра павуціну забудзьцеся, бабулька, няма яе ў нас. Што-небудзь другое—ёсьць, а павуціна ўся вышла.

# П А Д У М А Й

## З А Г А Д К І

1. Без агню гарыць, бяз крыльляў ляціць, бяз ног бяжыць.
2. Калі з шклянкі з вадою выліць усю ваду, што ў ёй застанецца.
3. Новая пасудзіна, а ўся ў дзірках.

## З А Д А Ч Ы

### З пяці квадратаў—чатыры



У гэтай фігуры трэба перакласьці тры запалкі так, каб замест пяці квадратаў стала толькі чатыры.

Як гэта зрабіць?

## ДА ПАЛАВІНЫ

Падышлі два хлопцы да бочкі з налітаю вадою. Адзін з іх Петрык і кажа свайму таварышу Янку:

— Адгадай, колькі тут наліта вады.

Паглядзеў Янка ў сярэдзіну бочкі ды кажа:

— Палавіна бочкі будзе.

— А я думаю меней,—не згаджаецца Петрык.

— На што нам спрачацца, давай памераем, — сказаў тады Янка.

Але памераць ня было чым. А ведаць хлопцам хацелася, чыя праўда. Выручыў хлопцаў з бяды таварыш іх Андрэй.

— Вось зараз мы даведаемся, чыя праўда.

Паглядзеце на гэты малюнак і вы ўбачыце, як даводзіў Андрэй хлопцам, колькі займае ў бочцы вада.



Вы гэта можаце праверыць самі. Вазьмеце бочку ці там якую пасудзіну з вадою і нахілеце яе. Калі вада дойзе да самага краю, а дна ня відаць, дык вады ў гэтай пасудзіне больш за палавіну. Калі-ж вада даходзіць да краю і чуць-чуць віднеецца дно—вада, значыць, займае палавіну гэтае пасудзіны.

## АДКАЗЫ НА ЗАГАДКІ

У № 1. Шарада—„Іскры Ільліча“

З № 2. — 1. Капуста. 2. Рэпа. 3. Морква.

З № 3. Рэбус — змагацца за рабочую справу, будзь гатоў!

З № 4. — 1. Самалёт. 2. Гняздо. 3. Чыгун і вілкі.

---

ЗЬМЕСТ



---

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ
„ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактар—А. ЯКІМОВІЧ.

Цана 25 кап.



# Падпісвайцеся

НА ДВУХТЫДНЁВУЮ
ІЛЮСТРАВАНУЮ
АКЦЯБРАЦКУЮ
ЧАСОПІСЬ

# Іскры Ільліча

## ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

ДРУКУЮЦЬ АПАВЯДАНЬНІ, ВЕРШЫ, НАРЫСЫ, ПЕСЬНІ, П'ЕСКІ, ГУЛЬНІ І ІНШЫЯ МАТАР'ЯЛЫ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ АКЦЯБРАЦКАГА ЎЗРОСТУ.

**СЬПЯШАЙЦЕСЯ ПАДПІСАЦЦА НА „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“ НА ЎСЁ ЛЕТА!**

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | |
|---|---|
| на 1 месяц (2 нумары) . . . . | 35 кап. |
| „ 3 „ (6 „ ) . . . . . | 1 р. 5 „ |
| „ 6 „ (12 „ ) . . . . . | 2 р. 10 „ |
| „ 1 год (24 „ ) . . . . . | 4 р. 20 „ |

**ПАДПІСКУ ЗДАВАЙЦЕ НА ПОШТУ І ЛІСТАНОСЦАМ**

Друкарня імя Сталіна Зак. № 993. 6300 экз. Менгарліт № 1440